# Да завяршэння падпіскі на другое паўгоддзе засталося 5 дзён. Не спазніцеся!

## Заможныя людзі! Дапамажыце падпісацца на "Народную волю" тым, у каго цяжкае фінансавае становішча.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас


**№ 98 (220)**

Аўторак, 10 чэрвеня 1997 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец — ТАА "Народная воля"
Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля



**Сонца**

| | Усход | Захад |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.20 | 21.37 |
| Магілёў | 4.28 | 21.28 |
| Гомель | 4.34 | 21.17 |
| Мінск | 4.38 | 21.39 |
| Гродна | 4.55 | 21.53 |
| Брэст | 5.05 | 21.44 |

*Першая квадра 13 чэрвеня.*



Первый взгляд

## Ну, чиновник, погоди! Двести тридцать пятая серия...

*Разработан проект еще одного декрета президента, который призван запугать начальников и заставить их трудиться из-под палки. Хотя со времен рабовладельческого строя известно, что прогресс на этом пути невозможен.*

**Людмила МАСЛЮКОВА,**
**политический обозреватель "Народной воли"**

Чего только ни делал белорусский президент со своими нерадивыми чиновниками! Наиболее высокопоставленных систематически в эфире перед многомиллионной телеаудиторией словесно порол. Руководителей среднего звена разносил в пух и прах на селекторных посевных и уборочных совещаниях. Неустанно перетряхивал всех подряд снизу доверху. На борисовскую администрацию во главе с бывшим мэром Виктором Капульцевичем коварно устроил засаду и взял их всей компанией, с поличным, тепленькими, возле бутылок со спиртным. Поздней весной началась переаттестация кадров госаппарата, которая оказалась для них страшнее сибирской язвы: десятки служащих с позором изгнаны за самые разные провинности.

И всего этого оказалось недостаточно для очистки "вертикали" от коросты лени, коррупции и некомпетентности. В недрах Администрации президента вызревает декрет с многообещающим названием "О неотложных мерах по укреплению трудовой и исполнительной дисциплины". Вот выйдет он — и белорусские министр, директор, клерк вконец уподобятся косоглазому и длинноухому, который отовсюду, где бы ни очутился, слышит плотоядный волчий рык: "Ну, заяц, погоди!"

Какими же новыми мерами воздействия обогатит карательный декрет жизнь зажравшегося и презревшего нужды народа чинуши? О, всего просто не пересказать! Нет, в натуре пороть розгами пока что не будут, но ощутимо накажут, к примеру, за контракт, не принесший предприятию значительной выгоды. 100 минималок предполагается изымать из кармана недотепы-руководителя за недовыручку, потому что декрет трактует ее не как следствие риска в бизнесе, а как злостное нарушение исполнительной дисциплины.

Нет, к позорному столбу еще не поставят, но штрафовать будут на каждом шагу. Поехала жена на служебном автомобиле мужа на базар — отдай 50 минималок. Вскопал тебе подчиненный огород на даче — положи в казну еще 50 минималок. В быту безмятежного бытия отныне не будет, а на работе и того хуже.

Все штрафы в месяц в совокупности не могут превышать половины месячного заработка государевых людей: иначе держава рискует просто уморить их голодом и извести их род под корень. А они республике нужны — хотя бы для демонстрации заботы президента о благе народном. На лобное место служащего пока не поведут, но ему, уволенному за нарушение трудовой дисциплины, на три года выдадут "волчий билет": к резиденциям, администрациям, заводоуправлениям, госучреждениям и не подходи.

К лошадиному хвосту пока не привяжут, но прогулы из отпуска будут вычитать, причем до тех пор, пока от 24 дней, положенных гражданину республики по КЗОТу, не останется шесть календарных дней. Ровно столько, чтобы с горя как следует напиться и успеть протрезветь к явке на службу.

Многое должно измениться в самой атмосфере государственного учреждения. Если вы с утра успели "заложить" начальству нескольких своих коллег за то, что они опоздали на службу, вы как честный доносчик вправе рассчитывать на премию: ее вам начислят из тех штрафов, которые сдерут с виновных.

Перечисленные и многие другие означенные в проекте меры наказания завизировали глава Администрации президента М.Мясникович, очень известные юристы А.Абрамович и А.Пласковицкий и менее именитые Ж.Адамушко и И.Сидорчук. Массовые будущие жертвы грядущего декрета могут про себя поминать эти имена...

Проект не содержит решительно ничего о том, нельзя ли как-то исхитриться и заинтересовать чиновника исполнять порученное ему дело честно, старательно и эффективно. Рождающийся документ, равный закону, носит только и исключительно карательный характер. Он призван чиновника запугать и заставить его трудиться из-под палки. Со времен рабовладельческого строя человечеству известно, что прогресс на этом пути невозможен, но Беларусь административная ретиво движется именно по нему.

При всем при том в душе рядового гражданина грозный декрет не вызывает никакого трепета. Белорусского чиновника, в принципе, не жалко, потому что такую долю он выбрал себе сам, когда помогал президенту узурпировать право вершить дела в республике самоличными декретами. А потом, ушлый служилый — он же точно как тот заяц, который всегда благополучно спасает свою пушистую шкурку. Нагоняи, переаттестации и декреты сильно напоминают мультсериал о нескончаемой погоне. Это у волка с зайчиком игра такая народу на потеху — в ложные догонялки. Очередная, двести тридцать пятая серия, скоро начнется. Не пропустите зрелища.

## УКАЗ
### ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
### № 315
### Аб прысваенні групе спартсменаў ганаровага звання "Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь"

*За дасягненне высокіх спартыўных вынікаў прысвоіць ганаровае званне "Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь":*

**ВАЎЧОК Наталлі Мечыславаўне** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па веславанню акадэмічнаму;

**ДАВЫДЗЕНКА Тамары Віктараўне** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па веславанню акадэмічнаму;

**ЛАЎРЫНЕНКА Наталлі Пятроўне** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па веславанню акадэмічнаму;

**ЛЕАНЦЮК Ірыне Пятроўне** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па лёгкай атлетыцы;

**ЛІШТВАНУ Сяргею Мікалаевічу** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па грэка-рымскай барацьбе;

**МІКУЛІЧ Алене Уладзіміраўне** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па веславанню акадэмічнаму;

**МЯДЗВЕДЗЕВУ Аляксею Уладзіміравічу** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па вольнай барацьбе;

**ПАНЬКІНАЙ Аляксандры Юр'еўне** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па веславанню акадэмічнаму;

**ПАЎЛАВУ Аляксандру Валер'евічу** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па грэка-рымскай барацьбе;

**ПАЎЛОВІЧ Яраславе Анатольеўне** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па веславанню акадэмічнаму;

**САЗАНОВІЧ Наталлі Вячаславаўне** — спартсмену-інструктару па лёгкай атлетыцы Міністэрства спорту і турызму;

**СІВАКОВАЙ Тамары Васільеўне** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па лёгкай атлетыцы;

**СКРАБАТУН Валянціне Аляксандраўне** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па веславанню акадэмічнаму;

**СТАСЮК Наталлі Віктараўне** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па веславанню акадэмічнаму;

**ЦЫЛЕНЬЦЮ Валерыю Антонавічу** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па грэка-рымскай барацьбе;

**ШУБЯНОК Жанне Віктараўне** — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па сучаснаму пяцібор'ю.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка.**
**4 чэрвеня 1997 г.**
г. Мінск.

## Прымай, Грэцыя, беларускіх бізнесменаў

Каля 20 фірм з Беларусі будуць прадстаўляць свой бізнес на Еўрапартнарыяце ў Грэцыі. Ён пройдзе 23—24 чэрвеня ў Афінах.

"Гэта будзе своеасаблівы кірмаш ідэй і прапаноў прадстаўнікоў малога і сярэдняга прадпрымальніцтва, — паведаміў карэспандэнту БелТА прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін. — Мэта гэтай дзелавой сустрэчы — развіццё супрацоўніцтва паміж прадпрыемствамі розных краін і арганізацыя вытворчай кааперацыі. Нашу краіну прадставяць на форуме такія вядомыя кампаніі, як ВА "Пінскдрэў" і "Барымак", гомельская фірма "Палімір" і "Маладзечнажалезабетон". Усе яны маюць бізнес-планы і дзелавыя камерцыйныя прапановы. Усяго ж злёт збярэ больш за тры тысячы прадпрымальнікаў з 70 краін свету".

**БелТА.**

Экалогія

## Утрыманне азону ў атмасферы па-ранейшаму ў норме

*На працягу гэтага тыдня агульнае ўтрыманне азону ў атмасферы над тэрыторыяй рэспублікі паволі зніжалася і 5—6 чэрвеня дасягнула значэння 335 адзінак Добсана. Гэта велічыня блізкая да сярэднекліматычнай нормы для пачатку чэрвеня.*

Паводле назіранняў Нацыянальнага навукова-даследчага цэнтра маніторынга азонасферы, сярэднямесячнае значэнне за май склала 333 адзінкі Добсана, што практычна супадае з нормай. Але звычайна ў маі заканчваецца перыяд веснавога павышэння ўтрымання азону ў атмасферы нашых шырот. У далейшым чакаецца паступовае яго змяншэнне. Гэта будзе працягвацца прыкладна да канца кастрычніка.

Супрацоўнікі цэнтра папярэджваюць насельніцтва аб тым, што зніжэнне агульнага ўтрымання азону ў атмасферы прыводзіць да павелічэння інтэнсіўнасці шкоднага для здароўя ультрафіялетавага выпраменьвання. Таму ў такія перыяды неабходна ўстрымлівацца ад загару ў паўдзённы час, калі сонца высока падымаецца над гарызонтам.

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**

Стоп-кадр

## Товарищ патрульный, седлайте коня...

Появление этих длинноногих красавцев на улицах Первомайского района немало заинтриговало местных жителей. Народная реакция была неоднозначной: одни откровенно восхищались, подолгу глядя им вслед, другие, напротив, выражали явное недовольство (что поделать, красота нынче так редка в нашей жизни, что порой ее трудно бывает оценить по достоинству), на лицах третьих читалось недоумение: лошади (а ведь именно о них идет речь) и в деревне-то большая редкость, а тут — город... Необычность зрелища подчеркивали всадники — люди в милицейской форме. Итак, на улицах Минска, как вы поняли, можно увидеть конную милицию — явление новое для нас и привычное для остального цивилизованного мира.

Подобный опыт уже имеется в Гродно. В Минске первопроходцем стал ОВД Первомайского района, оседлавший в целях охраны общественного порядка в парке им.Челюскинцев и Центральном ботаническом саду лошадок. Как говорится, начало положено, а "расширение штата" — дело наживное. Первые результаты "совместной деятельности" человека и животного не заставили себя долго ждать. Эпизодов, когда конный патруль оказался на высоте, предостаточно. Вот один из них. Дежурившему в парке конному патрулю были сообщены приметы трех негодяев, которые, угрожая ножом, силой отняли у двух подростков деньги и часы и, естественно, были уже далеко от места преступления. Действия милиционеров-всадников по поимке преступников грех не назвать оперативными: тут же были обследованы территории парка и ботанического сада, и очень скоро трое хулиганов уже давали показания.

Говорят, подкова приносит удачу. Пусть же Фортуна будет благосклонна к этим замечательным ребятам из наряда конной милиции и не забудет, что под каждым из них — по целых четыре подковы!

**Катерина ГУТКОВСКАЯ.**



На снимке: *конная милиция.*

Ведай нашых!

## Аўтобусы маркі "МАЗ" набываюць вядомасць

Дваццаць пяты аўтобус маркі "МАЗ-103" атрымала з пачатку года з Мінскага аўтазавода гарадское прадпрыемства "Мінскпасажыраўтатранс". Вядома, гэта яшчэ не вырашэнне праблемы абнаўлення рухомага саставу сталічных аўтобусных паркаў, але прысутнасць "свежых сіл" на гарадскіх маршрутах усё-такі ўжо адчуваецца. Тым самым на поўную магутнасць працуе і аўтобусная вытворчасць МАЗа. Калі летась яе "ліхаманіла" з-за адсутнасці заказаў, то сёлета ўжо сфарміравана нават свайго роду чарга на аўтобусы, якія рыхтуюцца да выпуску.

Гэту новую мадэль, што выпрабляецца па ліцэнзіі нямецкай фірмы "Неаплан", ацанілі і расійскія заказчыкі. Нядаўна два такія аўтобусы адпраўлены ў Маскоўскую вобласць. Вялікі заказ расійскіх транспартнікаў мінчане рыхтуюцца выканаць у трэцім квартале.

Канструктарская служба аўтобуснай вытворчасці, асвоіўшы выпуск машын для гарадскіх пасажырскіх перавозак, цяпер працуе над так званым прыгарадным варыянтам. Гэта мадэль ствараецца на базе аўтобусаў "МАЗ-103" і "МАЗ-104".

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**

Бывай, горад...

## Чаму ідзе ў водпуск дзіцячы сад

Кожны пяты дзіцячы сад у рэспубліцы прыпыняе сваю работу ў летні перыяд. Каменціруючы гэты факт па просьбе карэспандэнта БелТА, начальнік Упраўлення дашкольнага выхавання Міністэрства адукацыі Тамара Карасталева адзначыла, што звязана гэта ў першую чаргу з дэфіцытам бюджэтных сродкаў.

"Мы кожны год скарачаем колькасць дзіцячых садоў у летнія месяцы, калі частку дзяцей бацькі адпраўляюць на адпачынак у вёску або бяруць з сабой у водпуск, — сказала Тамара Мацвееўна. — Дзеці, якія засталіся, пераходзяць або ў іншы дзіцячы сад, або ва ўзбуйненую групу. Стараемся, каб гэты працэс быў як мага лягчэйшым у першую чаргу для дзіцяці. У групе не павінна быць больш за 20 дзяцей, а калі яна рознаўзроставая, то не больш як 12. Дзецям, што засталіся ў горадзе, таксама неабходна адпачываць і аздараўлівацца. Што ж датычыць пераходу садоў на рабочы дзень працягласцю ў 10,5 гадзіны, то такі графік павінен узгадняцца з бацькамі. Не ўсе з іх заканчваюць работу ў 17 гадзін і паспяваюць забраць дзіця да 18. Для такіх дзяцей павінны быць арганізаваны дзяжурныя групы і пры неабходнасці харчаванне".

На заканчэнне Тамара Карасталева паведаміла, што ў Мінску 87 з 506 дзеючых садоў закрыюцца на два месяцы — з сярэдзіны чэрвеня да сярэдзіны жніўня. У мінулым годзе гарадскі бюджэт зэканоміў на гэтым каля 500 мільёнаў рублёў.

**Аксана АСПІШЧАВА, БелТА.**

## Даже если Вы подпишетесь на "Народную волю" на один месяц — у Вас есть шанс выиграть ценный приз!

Дорогие читатели!

Не первый раз мы приглашаем Вас принять участие в розыгрыше лотереи среди тех, кто решил оформить подписку на вторую половину 1997 года. Обладатели "билетов удачи" действительно получат ценные призы — холодильники, телевизоры, магнитофоны, мебельные гарнитуры, кофеварки, спортивный инвентарь, библиотечки и многое-многое другое.

Подписка близится к завершению. Осталось 5 дней. Не опоздайте! Вы, как мы уже отмечали, имеете шанс выиграть дорогостоящую вещь, даже если подпишетесь только на один месяц.

***Напоминаем: наш индекс 63222. Стоимость на месяц — 29 тысяч рублей, на квартал — 87, на полгода — 174 тысячи. Подписаться можно в любом подписном пункте. Подробная информация — в приложении к каталогу.***




Уважаемые подписчики, вырежьте этот купон, заполните его и отошлите по адресу: **220030, г.Минск, ул.Энгельса, 34а, "Народная воля".** На конверте сделайте пометку "Лотерея". Авторитетная комиссия определит победителей.

Ф.И.О. ____________________

____________________

Адрес ____________________

____________________

**Внимание!**
В розыгрыше участвует один купон. Письма присылайте до 25 июня 1997 г
Призы победителям вручат при наличии подписного абонемента!

*О времени проведения розыгрыша редакция сообщит дополнительно.*

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на газету 6 3 2 2 2** (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў ____

на 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ____________________
(паштовы індэкс) (адрас)

Каму ____________________
(прозвішча,ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

**на газету 6 3 2 2 2** (індэкс выдання)

Народная Воля

| Кошт | падпіскі | ____ руб. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____ руб. | | |

на 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ____________________
(паштовы індэкс) (адрас)

Каму ____________________
(прозвішча,ініцыялы)



Крыўдна!

## Чаму мне прыходзіцца дажываць свой век з суседам-алкаголікам...

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, я працаваў аператыўным упаўнаважаным НКУС у г.Бабруйску. І ўжо праз два тыдні быў паранены. Адправілі ў тыл, і цэлых шэсць месяцаў праляжаў у шпіталі г.Каўрова Уладзімірскай вобласці. Паправіўся, і адразу прызначылі аператыўным упаўнаважаным 1-й Беларускай партызанскай брыгады, якая дыслацыравалася ў Віцебскай вобласці.

За ўвесь перыяд службы 10 разоў даводзілася пераходзіць лінію фронту, без усялякай падрыхтоўкі скідвалі на парашутах у тыл ворага. Каля мястэчка Пудаць, што на мяжы са Смаленскай вобласцю, пры чарговай сутычцы з немцамі быў зноў паранены...

Ды і пасля вызвалення роднай Беларусі не сядзеў без справы. Ужо ў сакавіку 1945 года быў начальнікам аддзела капітальнага будаўніцтва "Белметалтрэст" г.Мінска, з 1947 года — старшыня планавай камісіі гарвыканкама г.Ліды Гродзенскай вобласці. Чатыры гады ўзначальваў калгас "Новае жыццё" Іўеўскага раёна. У 1960 годзе прыехаў у г.Гродна, працаваў на розных пасадах: загадваў фабрыкай хімчысткі, пазней — майстар бытавога абслугоўвання, упраўляючы домаўпраўлення №1, намеснік дырэктара магазіна і г.д.

Наогул, усё жыццё і сілы аддадзены абароне Радзімы — у грозныя дні вайны, аднаўленню разбуранай народнай гаспадаркі — у мірны пасляваенны час. Верыў і жыў надзеяй, што мая старасць, дабрабыт дзяцей і ўнукаў будуць забяспечаны, што мая праца на карысць Радзімы будзе дастойна ацэнена дзяржаваю.

А што выйшла? Да слёз балюча гаварыць. Ды і казаць, па сутнасці справы, няма каму. Вось і пішу, паважаная рэдакцыя, Вам, каб надрукавалі мой ліст-крыўду. Можа, прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка прачытае і дапаможа. На яго, больш ні на кога, я ўскладваю ўсе свае надзеі.

Да перабудовачнага часу і распаду, як кажуць цяпер, СССР меў на ашчаднай кніжцы 6000 рублёў. За гэтыя грошы тады можна было купіць жыллё ці прыхаваць, як кажуць, на "чорны дзень". Але хто ведаў, што так абвядуць старых нямоглых людзей вакол пальца начальнікі. Праўда, за тыя шэсць тысяч рублёў атрымаю шэсць мільёнаў рублёў. На пахаванне іх, магчыма, і хопіць, толькі калі перавесці на долары і іх зберагчы. А пакуль мы са старэнькай і сваёю ўнучкаю пакутуем на гарышчы камунальнай двухпакаёвай кватэры сумесна з суседам-алкаголікам, нідзе не працуючым. Унучка дакументальна афармлена нашым апекуном і даглядае нас — дзеда і бабу.

Неаднаразова звяртаўся да мясцовых улад, двойчы — да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі. Адказ прыходзіць адзін: гарвыканкам сродкаў на будаўніцтва жылля не мае. Дзе ж і як зразумець гэтым людзям, што пішуць адказы, старога чалавека, які стаў інвалідам трэцяй групы Вялікай Айчыннай вайны і інвалідам першай групы па агульнаму захворванню. І не так крыўдна было б, каб гэтыя гора-начальнікі пажылі ў свой час у акопах-зямлянках, а цяпер — вось на такіх гарышчах. Можа, па-іншаму глядзелі б праўдзе ў вочы. Я не патрабую харомаў, асабнякоў, а самых, што ні ёсць звычайных умоў жыцця на сваёй пакутлівай старасці.

Не стану крывіць душою, не магу. Калі пісаў на імя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дык двойчы наведвалася камісія з гарвыканкама. Ствараецца бачнасць, што ідзе рамонт. Прыб'юць дзве-тры дошкі, замажуць адпаўшую тынкоўку, расколіны — і на гэтым усё. Вось і цяпер, калі пішу гэтае пісьмо, рабочыя рамантуюць дах — заліваюць смалою і смяюцца з мяне, старога, што гэта нічога не дасць.

Паважаная рэдакцыя! Вельмі прашу цябе надрукаваць мой ліст хоць у скарочаным выглядзе. Няхай пачытае прэзідэнт А.Р.Лукашэнка, бо прачытаць усе пісьмы, якія ідуць у яго адрас, ён, безумоўна, не можа. Пра мае блуканні па пакутах Аляксандр Рыгоравіч, напэўна, таксама не ведае. Супрацоўнікі канцылярыі накіроўваюць нашы крыўды-заявы ў мясцовыя выканаўчыя ўлады, а тут — бачыце, які іх вынік.

Загадзя выказваю вам вялікую падзяку за чуласць і дабрыню да нашай гаротнай інвалідскай сям'і.

**З павагаю,**
**Мікалай Парфімавіч КАРПАЎ,**
**інвалід III групы ВАВ, інвалід I групы па агульнаму захворванню.**
г. Гродна.

